ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

*Свабода, роўнасць, братэрства!*



# Беларускі УСХОД

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 33 (114) Чацвер, 17 жніўня 2000 г. ● У розніцу кошт свабодны

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### "ЛЯЖАЧЫ" СТРАЙК НА "ТРАНСМАШЫ"

На заводзе "Трансмаш" у Магілёве адбыўся страйк. Рабочыя некалькіх цэхаў спынілі работу і выйшлі да адміністрацыйнага корпусу, перад якім пaляглі на траву. Пачалі страйк работнікі двух цэхаў, да іх далучыліся іншыя рабочыя. У астатніх цэхах таксама не працавалі, але заставаліся на сваіх працоўных месцах. Прадстаўнікі інжынерна-тэхнічнай часткі калектыву былі таксама салідарныя з патрабаваннямі рабочых. Страйк пачаўся з прычыны затрымкі заробкаў. У той жа дзень грошы знайшліся, і заводская каса працавала ў напружаным рэжыме да дзевятай гадзіны вечара.

**Мікалай ГРЫГАРОВІЧ.**

### ШКЛОЎ БУДЗЕ ВЫБІРАЦЬ КАНАПЛЁВА

У Шклове сваю перадвыбарчую кампанію распачаў блізкі сябра А.Лукашэнкі Уладзімір Канаплёў. Паштовыя скрынкі жыхароў райцэнтра закіданыя ўлёткамі, якія нагадваюць рэкламны праспект. На першай старонцы— фота народнага абранніка, далей дасягненні дэпутата за апошнія пяць год. Аказваецца, адно з асноўных дасягненняў тое, што, узначальваючы беларускі аддзел Фонду праваслаўных народаў, Канаплёў шмат зрабіў для "яднання славянаў".

**А.В.**

### 27 ТЫСЯЧ ПОДПІСАЎ ЗА НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сабрала звыш 27 тысяч подпісаў за адкрыццё Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. Найбольшая колькасць подпісаў была сабрана ў Лідзе (каля 8 тысяч). Для параўнання: у Мінску было сабрана трохі больш за 5 тысяч подпісаў. Вельмі актыўнымі ў гэтай кампаніі былі вясковыя жыхары. Зараз збор подпісаў за адкрыццё БНУ працягваецца.

**Т.Б.**

### ЧЭРЫКАЎСКІ ФЕРМЕР ПРЫЙШОЎ НА ДАПАМОГУ КАЛГАСУ

Вядомы чэрыкаўскі фермер Мікалай Марачкін прыйшоў на дапамогу суседняму калгасу імя Ільіча. Адклаўшы ўборку сваёй пшаніцы на больш позні час, ён накіраваў у гэту гаспадарку чатыры фермерскія камбайны. Прычым забяспечыў усе іх кадрамі механізатараў і іх харчаванне на час работы ў полі, а машыны палівам і тэхнічным абслугоўваннем. Згодна з заключаным дагаворам, аплата за работу будзе праведзена натурай. Частка намалочанага збожжа пойдзе фермерскай гаспадарцы.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

### ПРЭЗІДЭНТ НЕЗАДАВОЛЕНЫ ПРАФЛІДЭРАМІ

"У сувязі са спробай прафсаюзных лідэраў надаць грамадскай думцы ў Беларусі і міжнароднай супольнасці беспадстаўны тэзіс аб ушчамленні правоў прафсаюзаў з боку дзяржаўных улад" адміністрацыя прэзідэнта Лукашэнкі заяўляе, што "дзяржава разглядае прафсаюзы як гарант забеспячэння канстытуцыйных правоў грамадзян і важны рычаг рашэння найважнейшых сацыяльна-эканамічных задач, што стаяць перад грамадствам", — гаворыцца ў распаўсюджаным адміністрацыяй А.Лукашэнкі дакуменце.

Разам з тым, на думку адміністрацыі, асобныя лідэры прафсаюзаў сумяшчаюць свае высокааплочваемыя выбарныя пасады з палітычнай дзейнасцю, што "наносіць прамую шкоду прафсаюзнаму руху". Адміністрацыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выказвае ўпэўненасць, што пярвічныя арганізацыі і шэраговыя члены прафсаюзаў разумеюць ілжывасць ідэй і дэструктыўнасць мэтаў, дэкларуемых такімі прафсаюзнымі дзеячамі, і разлічвае, што прагрэсіўная сусветная супольнасць будзе зыходзіць з аб'ектыўнай ацэнкі сітуацыі і разглядаць дэструктыўную пазіцыю асобных прафлідэраў як пэўныя выдаткі ў развіцці сучасных дэмакратычных працэсаў у Беларусі", — гаворыцца ў заяве.

### КААРДЫНАЦЫЙНЫЯ РАДЫ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ:

#### У СВЕТЛАГОРСКУ

адбыўся сход прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх арганізацый дэмакратычнага накірунку. На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі АГП, БНФ, БСДПГ (НГ), а таксама ТБМ імя Ф.Скарыны і Беларускай Лігі жанчын. Старшынёй Рады абраны В.Болбас. Ён жа абраны і прадстаўніком Светлагорскай КРДС на абласную канферэнцыю.

#### У ГОМЕЛІ

прайшла абласная канферэнцыя прадстаўнікоў дэмакратычных сіл, на якой былі прадстаўлены дэлегаты ад 29 партый і грамадскіх арганізацый дэмакратычнага кірунку. Было адзначана, што каардынацыйныя рады дэмакратычных сіл створаны ў 10 раёнах вобласці. На канферэнцыі прынята дэкларацыя аб стварэнні КРДС Гомельскай вобласці і рэгламент працы Рады.

Прадстаўніком КРДС Гомельскай вобласці ў агульнабеларускай Радзе абраны кіраўнік ГА "Грамадзянскія ініцыятывы" сябра АГП Віктар Карніенка.

Паседжанні КРДС у далейшым вырашана склікаць пры неабходнасці.

***Прэсавая служба Гомельскай абласной Рады БНФ.***

### ЗНІКЛІ ГРОШЫ — ПРАЙШЛО КАХАННЕ

Да яшчэ маладой жанчыны з вёскі Радастава Драгічынскага раёна прыехаў мужчына з Расіі. Прыехаў не з пустой кішэняй і пакуль грошы былі, то жылі яны даволі мірна. А як толькі грошы зніклі, пачаліся спрэчкі. Жанчына пачала выказваць прэтэнзіі, а яе каханы на гэта рэагаваў агрэсіўна. Вось і вырашыла маладзіца добра правучыць "прымака". Падгаварыла свайго 20-гадовага брата і яшчэ аднаго хлопца, каб яны крыху "павучылі" мужыка.

За чаркай узнікла сварка, і хлопцы пад наглядам жанчыны моцна пабілі чалавека. П'яныя перасталіся, і мужчына памёр. Усе яны арыштаваны.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

### КРАДУЦЬ ГУЛЬТАІ-АБІБОКІ

Злодзеяў у нашым грамадстве становіцца ўсё больш, асабліва сярод беспрацоўных. Яны не грэбуюць нічым. Цягнуць усё, што трапіць пад рукі. Так, 35-гадовы гультаюга Віктар, які ўжо быў і раней судзімы, украў з хаты жыхаркі вёскі Бель-1 яе асабістыя рэчы і прадукты харчавання на агульную суму каля 20 тысяч рублёў.

А вось другі абібок, Аляксандр, надвячоркам зламаў дзверы ў адной з хат у вёсцы Залесавічы і ўкраў імпартны магнітафон і грошы.

### ЗАЦЕЯЛІ БОЙКУ... ДЗЯДЫ.

У прыёмны пакой Крычаўскага тэратарыяльнага медыцынскага аб'яднання з нажавым раненнем паступіў пенсіянер з вуліцы Калгаснай. Як высветлілася ў ходзе следства, удар нажом нанёс яму ў час сваркі сусед, таксама пенсіянер.

### ГРАЛА НА ДАВЕРЫ

Ой і даверлівыя нашы людзі! Першага стрэчнага прымаюць як роднага. А потым за гэта расплочваюцца.

Яскравы прыклад: пенсіянер з Крычава запрасіў у госці мала знаёмую гультайку Святлану, якая пасля багатага застолля з гаспадаром украла ў яго куртку і мясапрадукты. Яна ж увайшла ў давер пенсіянерцы з вёскі Залесавічы і абакрала тую. Выкрала ложкавую бялізну і адзенне, падрыхтаванае бабуляй на смерць...



*Экіпаж зернеўборачнага камбайна калгаса "Звязда" Крычаўскага раёна: камбайнер М.Непакульчыцкі і яго памочнік У.Фядосенка. Яны з першых дзён уборкі ідуць у шэрагах перадавікоў жніва-2000.*

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

### НЕБЯСПЕЧНА АСТАЎЛЯЦЬ НЕШТА НА ГАНКУ

Надзея Пятроўна з вёскі Мірнае аставіла неяк ненадоўга на ганку пантофлі і куртку і горка пашкадавала. Жывёлавод з калгаса "Перамога" Аляксандр, які жыве ў вёсцы Варадзькова праходзячы міма "прыбраў да рук" гэтыя рэчы. Ён затрыманы, рэчы гаспадыні вернуты.

**Аляксандр БАЛДОЎСКІ, Крычаўскі раён.**

### М.ТЭТЧАР ПРЫЕДЗЕ Ў БЕЛАРУСЬ?

Кансультатыўны Савет дэмакратычных сілаў рэспублікі распрацаваў шэраг крокаў па супрацьдзеянню пачатай уладамі кампаніі па выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Адной з буйнейшых акцый бліжэйшага часу стане арганізацыя апазіцыяй усенароднага апытання пад рабочай назвай "Усенародны рэферэндум" па пытаннях адносін насельніцтва Беларусі да патрабаванняў, якія ставяць перад прэзідэнтам Лукашэнкам дэмакратычныя сілы і сусветная супольнасць: забеспячэнне свабоды слова, спыненне палітычных рэпрэсій, расшырэнне паўнамоцтваў новага складу парламента, дэмакратызацыя Выбарчага кодэкса, доступ апазіцыі да дзяржаўных СМІ, у першую чаргу да ТБ і г.д. Кансультатыўны Савет дэмсілаў запланаваў таксама на восень шэраг інтэлектуальных акцыяў. У прыватнасці, плануецца правесці ў Мінску Расійска-Беларускі "круглы стол", а таксама арганізаваць візіты ў Мінск англійскага экс-прэм'ера Маргарэт Тэтчэр і былога прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы.

### РЭЗАЛЮЦЫЯ АБЛАСНОЙ КААРДЫНАЦЫЙНАЙ РАДЫ

Мы, сябры КР "Магілёўская альтэрнатыва", абмяркаваўшы на сваім чарговым паседжанні пытанне аб стаўленні дэмакратычных арганізацый г. Магілёва да маючых адбыцца выбараў у Нацыянальны сход РБ і ўлічваючы:

а) што прызначаныя ўладай выбары носяць несвабодны і недэмакратычны характар;

б) што нявыкананыя чатыры асноўныя ўмовы для ўдзелу апазіцыі ў мяркуемых выбарах;

в) што прадстаўнікі дэмакратычных арганізацыяў ня ўключаныя ў выбарчыя камісіі;

г) а таксама ўлічваючы рашэнні Кангрэса дэмакратычных сілаў, КР дэмакратычных сілаў РБ, рашэнні адпаведных міжнародных арганізацый, і зважаючы на неабходнасць мацавання незалежнасці Беларусі як найвялікшай каштоўнасці беларускага народу, прыйшлі да наступных высноваў:

1. Устрымаюцца ад удзелу ў плануемым уладамі выбарчым фарсе і не вылучаць кандыдатамі ў дэпутаты ў Нацыянальны сход РБ сваіх сяброў, у тым ліку ў якасці незалежных кандыдатаў.
2. Прапанаваць сябрам грамадскіх і палітычных арганізацый устрымацца ад непасрэднага ўдзелу ў выбарчай кампаніі за любых іншых кандыдатаў.
3. Не вылучаць прадстаўнікоў дэмакратычных партый у выбарчыя камісіі.
4. Не забараняць сябрам грамадскіх арганізацый прымаць рашэнне аб удзеле ў кантролі за выбарамі.
5. Рэкамендаваць прадстаўнікам БСДП "НГ" заняць узгодненую з іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі пазіцыю.
6. Прыняць да ведама заяву Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ "Адраджэнне" аб актыўным байкоце яе сябрамі тых прадстаўнікоў палітычных партый, якія вылучацца ў якасці кандыдатаў у дэпутаты на плануемых выбарах.

# КАСТРЫЧНІК.., О, ЯК ШМАТ У ГЭТЫМ ГУКУ!

## Напал дыяметральна процілеглых меркаванняў напярэдадні парламенцкіх выбараў у Беларусі

### Партыі вызначаюцца адносна выбараў

**на пасяджэнні "круглага стала" у нацыянальным прэс-цэнтры абмяркоўваліся пазіцыі палітычных партый краіны адносна ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў. Удзел у ім прынялі прадстаўнікі 7 палітычных партый Беларусі.**

Прадстаўнікі 6 партый: Камуністычнай, Рэспубліканскай, Беларускай сацыяльна-спартыўнай, Беларускай патрыятычнай, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, Аграрнай — запэўнілі прысутных, што яны абавязкова прымуць удзел у выбарах.

Пазіцыю гэтых шасці партый у значнай ступені падтрымалі і прадстаўнікі дзяржаўных органаў, якія ўдзельнічалі ў пасяджэнні "круглага стала".

Адзіным апанентам за "круглым сталом" з'явіўся першы сакратар ЦК Партыі Камуністаў Беларусі Сяргей Калякін. Ён лічыць удзел у выбарах адзінай цывілізаванай формай змены ўлады, але зараз палітычная сітуацыя, на яго думку, не спрыяе правядзенню свабодных выбараў, бо не выконваюцца самі законы Беларусі: у прыватнасці, аб палітычных партыях, аб правядзенні масавых мерапрыемстваў і іншыя.

Ці не найбольш актыўней абмяркоўваліся за "круглым сталом" праблемы паводзінаў СМІ падчас выбарчай кампаніі. Менавіта гэта прычына з'явілася вырашальнай пры адмове аб удзелу ў пасяджэнні прадстаўнікоў 7 партый: Аб'яднанай грамадзянскай, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада", БНФ, жаночай партыі "Надзея", партыі працы і Беларускай партыі "зялёных".

Як гаворыцца ў распаўсюджанай падчас пасяджэння заяве, яны не палічылі мэтазгодным прымаць удзел у ім з-за "шматлікіх выпадкаў скажэння пазіцыі апазіцыйных партый дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі і тэндэнцыйнасцю падачы інфармацыі ў іх". Таму яны прапанавалі правесці падобны "круглы стол" у прамым тэле- і радыёэфіры. Нягледзячы на тое, што, як зазначыў памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў, ён асабіста не супраць гэтага, ідзя выступаў у прамым эфіры павісла ў паветры.

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ.**

### Пазіцыя ПАСЕ

**Дэлегацыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы будзе рэкамендаваць не пасылаць назіральнікаў на выбары ў Беларусь восенню гэтага года.** Пра гэта заявілі ўдзельнікі дэлегацыі. **Кіраўнік Камітэта ПАСЕ** па палітычных пытаннях **Тэры Дэвіс** сказаў, што "расчараваны бачным недахватам прагрэсу ў адносінах да стварэння адэкватных умоў, якія неабходны для правядзення свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі".

**Такое непрыемнае для беларускіх уладаў заключэнне было зроблена па выніках чатырохдзённай работы еўрапейскіх парламентарыяў у нашай сталіцы.**

За гэты час яны сустрэліся з прадстаўнікамі ўладаў, апазіцыі, прафсаюзаў, палітычных партый, пабывалі ў турме, дзе мелі гутаркі з Клімавым і Кудзінавым. У выніку яны прыйшлі да высновы, што за час, які мінуў з моманту іх апошняга візіту ў Беларусь, палітычная сітуацыя і абставіны напярэдадні выбараў змяніліся нязначна. Як вядома, еўрапейская супольнасць рэкамендавала беларускім уладам зрабіць канкрэтныя намаганні для таго, каб выканаць чатыры асноўныя ўмовы: устанавіць дастатковую празрыстасць выбарчага працэсу, гарантаваць доступ палітычным партыям да дзяржаўных СМІ, надаць парламенту рэальныя функцыі самастойнай галіны ўлады і ўсталяваць "перыяд міру" напярэдадні выбараў. Па словах спадара Дэвіса, парламентарыі былі расчараваны правалам многіх намаганняў, накіраваных на стварэнне ўмоў для правядзення дэмакратычных выбараў.

Такім чынам, вярнуўшыся з Мінска, Члены дэлегацыі прадставяць свой пункт гледжання на разгляд бюро ПАСЕ. А 30 жніўня ў Вене адбудзецца сумесная канферэнцыя прадстаўнікоў парламентаў Савета Еўропы, АБСЕ і Еўрапейскага саюза, на якой чакаецца прыняцце канчатковага і ўзгодненага рашэння адносна магчымасці накіравання ў Беларусь назіральнікаў на выбары. Нягледзячы на тое, што ўпершыню прадстаўнікі еўраструктур заявілі недвухсэнсоўна аб адмове пасылаць назіральнікаў на выбары, яны лічаць, што ў беларускіх уладаў яшчэ ёсць час і магчымасці для таго, каб правесці канкрэтныя змяненні і паўплываць такім чынам на канчатковае рашэнне трох аўтарытэтных еўрапейскіх арганізацый.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### У адміністрацыі прэзідэнта лічаць пазіцыю дэлегацыі ПАСЕ прадузятай

Улады Беларусі са шкадаваннем адрэагавалі на заяву членаў дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы аб тым, што яны будуць рэкамендаваць ПАСЕ і іншым еўрапейскім структурам не накіроўваць сваіх назіральнікаў на выбары ў Беларусь. У сувязі з гэтым сцвярджэннем Міністэрства замежных спраў нядаўна выступіла з адпаведнай заявай. Адзін прадстаўнік уладаў яшчэ і дадаткова (некалькі пазней) выказаў пункт гледжання афіцыйнага боку. З рэакцыяй на заключэнне дэлегацыі парламентарыяў Савета Еўропы выступіў памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў. Ён адзначыў, што, на яго погляд, члены дэлегацыі былі прадузятымі. "Яны прыбываюць сюды з папярэдне сфарміраваным меркаваннем, і нашы аргументы не бяруцца імі пад увагу", — падкрэсліў памочнік прэзідэнта.

С.Посахаў паведаміў, што нягледзячы на сцвярджэнне парламентарыяў ПАСЕ аб тым, што ў Беларусі не дасягнута дастатковага прагрэсу па выкананню чатырох умоў для правядзення справядлівых і дэмакратычных выбараў, беларускія ўлады лічаць зусім інакш. С.Посахаў перакананы, што ў краіне выкананы ўсе чатыры ўмовы, пра якія гаварылі прадстаўнікі ПАСЕ. Пазіцыя ж парламентарыяў, паводле слоў памочніка прэзідэнта "сведчыць аб неадэкватнасці іх рэакцыі і аб нежаданні ўспрымаць відавочныя факты".

Улічваючы пагрозу таго, што еўрапейскія структуры могуць прыняць адзінае рашэнне і не даслаць на выбары ў Беларусь назіральнікаў, С.Посахаў паведаміў, што ўлады вядуць кансультацыі непасрэдна з прадстаўнікамі канкрэтных дзяржаў. Зараз такія перамовы ідуць з 42 дзяржавамі, у тым ліку і з дзяржавамі, якія ўваходзяць у Еўрасаюз і НАТО. Яшчэ беларускі бок зараз прыкладае намаганні, каб быць прадстаўленым на тэхнічнай канферэнцыі ў Вене, дзе 30 жніўня парламенцкія структуры Савета Еўропы, АБСЕ і Еўрасаюза будуць прымаць канчатковае рашэнне аб магчымасці ўдзелу іх назіральнікаў на выбарах у Беларусі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### Прэс-сакратар МЗС Павел Латушка зрабіў заяву наконт рашэння дэлегацыі ПАСЕ

Са шкадаваннем і неразуменнем успрынята ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь распаўсюджаная прэс-службай Савета Еўропы прэс-камюніке аб тым, што дэлегацыя Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы не будзе рэкамендаваць пасылаць наглядальнікаў на выбары ў Беларусь. Аб гэтым гаворыцца ў заяве, зробленай прэс-сакратаром МЗС Паўлам Латушкам. Ён падкрэслівае, што дэлегацыі ПАСЕ ў час яе знаходжання ў Беларусі з 31 ліпеня па 4 жніўня былі прадастаўлены ўсе магчымасці для атрымання аб'ектыўнай і ўсебаковай інфармацыі. Але члены дэлегацыі палічылі за лепшае не заўважыць відавочныя факты, тое, што прыняты селе-



та Выбарчы кодэкс больш дэмакратычны, чым Закон, па якім выбіраўся Вярхоўны Савет РБ 13-га склікання. У заключэнне Павел Латушка выказаў надзею на тое, што дзяржавы, члены Савета Еўропы, структуры агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва зоймуць больш канструктыўную і аб'ектыўную пазіцыю ў адносінах да маючых адбыцца парламенцкіх выбараў у нашай краіне.

**БЕЛТА.**

### "Калі еўрапейцы і прыедуць на выбары, то гэта будзе не назіранне, а звычайны маніторынг..."

Мне так падаецца, што дэлегацыя ПАСЕ, з якой мы сустракаліся, хацела паставіць апошнюю кропку ў пытанні прысылаць ці не прысылаць назіральнікаў. І таму нялёгка прышлося і апазіцыі, і ўрадаваму боку. У Еўропе не зусім разумеюць, чаму партыі адмаўляюцца ад удзелу ў выбарах — яны, еўрапейцы, прывыклі жыць у нармальных, цывілізаваных умовах. Таму апазіцыйнаму боку прыйшлося асабліва нялёгка. Але я ўпэўнены ў тым, што на ўсе пытанні, якія ўзніклі ў нашых гасцей, мы змаглі даць пераканаўчы адказ. І нейкі скепсіс еўрапейцаў змяніўся ўпэўненай пазіцыяй наконт таго, што ў Беларусі не існуюць умовы для свабодных дэмакратычных выбараў. Улады зараз больш за ўсё спадзяюцца на тое, што прыедуць некалькі прадстаўнікоў міжнародных структур, якія будуць выконваць функцыі маніторынгу. І напэўна яны прыедуць. Але няхай уравы бок не радуецца, гэта будзе не назіранне, а звычайны маніторынг.

**Міхаіл ПЛІСКА,**
**кіраўнік экспертнай групы апазіцыйных палітычных партый па выбарчым праве і канстытуцыйных пытаннях.**

### Што думае цэнтравыбаркам?

Як паведаміла на сваім брыфінгу ў Нацыянальным прэс-цэнтры старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына, сфарміраваны 110 акружных камісій і з 6 жніўня пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты шляхам збору подпісаў (кожны з кандыдатаў павінен сабраць па 1000 галасоў патэнцыйных выбаршчыкаў). З 5 па 14 верасня пройдзе этап праверкі іх дакументаў і рэгістрацыі кандыдатаў у акруговых камісіях. Перыяд перадвыбарнай агітацыі пачнецца не пазней 15 верасня і працягнецца да 14 кастрычніка.

Па інфармацыі Лідзіі Ярмошынай, з дзяржаўнага бюджэту для правядзення выбараў будзе выдзелена 4 мільярда 32 мільёны 600 тысяч рублёў.

Каменціруючы нядаўняе рашэнне большасці апазіцыйных партый байкатаваць парламенцкія выбары, Лідзія Ярмошына заявіла, што, на яе думку, прадстаўнікі гэтых партый "тым ці іншым чынам прымуць удзел у выбарах". Што ж датычыць праблемы ўдзелу ў выбарах міжнародных назіральнікаў, старшыня цэнтрвыбаркама заявіла, што ўжо ў бліжэйшы час ім будуць разасланы адпаведныя запрашэнні. Калі ж яны адкажуца прыехаць да нас у кастрычніку, то выбары ўсё роўна будуць праведзены. "Па крайняй меры, назіральнікі з краін СНД да нас прыедуць. Я ў гэтым упэўнена на ўсе 100%". — лічыць Лідзія Міхайлаўна.

### Што плануе апазіцыя

На прайшоўшым у Мінску Кангрэсе дэмакратычных сіл было прынята рашэнне байкатаваць выбары ў палату прадстаўнікоў. Гэтае рашэнне яшчэ раз было пацверджана членамі Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сіл (Вінцук Вячорка, Анатоль Лябедзька, Мікалай Статкевіч, Станіслаў Шушкевіч і іншыя апазіцыйныя лідэры) у сваёй нядаўняй заяве. Але не ўсе апазіцыйныя партыі адзіныя ў сваёй пазіцыі. Некаторыя заяўляюць, што ўдзел у выбарах стане магчымым, калі ўлады пойдуць на шэраг уступак (доступ апазіцыі ў дзяржаўныя СМІ, вызваленне палітвязняў і г.д.) і ў Беларусь прыедуць назіральнікі з Еўропы. Некаторыя, як лідэры ЛДПР, гатовы ўдзельнічаць у выбарах і нават выставіць на выбарчых участках 20 тысяч сваіх назіральнікаў.

### Тры чвэрці — на выбары?

На думку большасці грамадзян краіны, галоўную ролю ў вырашэнні канфлікту паміж рознымі палітычнымі сіламі павінны адыграць "самі беларусы". У прыватнасці, паводле майскага сацыялагічнага даследавання лабараторыі "Новак", гэты варыянт адказаў абралі адразу 52,7% рэспандэнтаў. Адначасова 13,5% апытаных паведамілі, што палітычная стабільнасць у Беларусі першнаперш залежыць ад Расіі, 4,1 — ад Захаду, 4 — ад АБСЕ, 8,1 працэнта лічаць, што канфлікту не існуе увогуле, а яшчэ 17,4 адзначылі, што ім цяжка адказаць на гэтае пытанне.

Якім чынам павінны быць перадолены супярэчнасці паміж уладай і апазіцыяй? Як прагучала нядаўна падчас прэзентацыі першага выпуску інфармацыйнага бюлетэня лабараторыі "Новак" "Маніторынг грамадскай думкі: парламенцкія выбары, грамадска-палітычны дыялог", у маі погляды грамадзян Беларусі размеркаваліся такім чынам: "шляхам перамоў" — 34%, "шляхам шырокага грамадскага дыялога" усіх грамадска-палітычных сіл — 33,1%, "шляхам падаўлення апазіцыі ці грэбавання яе думкай" — 9,9 працэнта, "шляхам правядзення акцый непадпарадкавання ўладам" — 3,2%, прычым значная частка апытаных —19,3 працэнта) зноў такі не выказалі пэўнага меркавання.

Між тым, нельга не звярнуць увагі і на адносіны грамадзян Беларусі да, безумоўна, галоўнай палітычнай падзеі года — восеньскіх выбараў у парламент. Так, паводле вынікаў агульнанацыянальнага апытання лабараторыі "Новак", у маі аб намеры прыняць удзел у іх паведамілі 74,8 працэнта рэспандэнтаў, а ў чэрвені нават 79,4 працэнта рэспандэнтаў. Пры гэтым адметна, што ў маі ўсяго 19,1 працэнта апытаных выказалі жаданне аддаць свой голас кандыдату ад апазіцыі, 62,9 працэнта рэспандэнтаў "Новака" выказалі думку, што апазіцыйныя палітычныя партыі павінны мець рэгулярны доступ да сродкаў масавай інфармацыі, процілеглага пункту гледжання прытрымліваўся кожны пяты ўдзельнік апытання.

**Сяргей ГРЫБ.**

### Голас народа

Па дадзеных беларускага цэнтрвыбаркама, армія выбаршчыкаў складае на сённяшні дзень каля 7 мільёнаў чалавек. Але ці ўсе яны прыдуць на выбары? Як паказалі вынікі нацыянальнага апытання, праведзенага ў чэрвені вучонымі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў і Цэнтра сацыяльных і экалагічных даследаванняў, 59,7% рэспандэнтаў заявілі аб сваім жаданні ўдзельнічаць у выбарах, 11% апытаных не збіраюцца ўдзельнічаць у галасаванні.

Цікавыя і адказы на пытанне "За якіх кандыдатаў вы палічылі б больш мэтазгодным галасаваць?"

38,1% рэспандэнтаў — за прыхільнікаў А.Лукашэнкі, 37,5% — за незалежных кандыдатаў, 7,6% — ад адной з палітычных партый, 6% — за кандыдатаў ад "аб'яднанай апазіцыі". Наогул кандыдатам у дэпутаты ёсць над чым падумаць. Ёсць падставы для роздуму і ў шэраговага выбаршчыка. Між іншым сёння ён больш раздумвае аб пошуках хлеба надзённага, чым аб палітычных інтрыгах. Нездарма ж на пытанне сацыёлагаў аб тым, з кім беларусы звязваюць надзею на паляпшэнне жыцця ў краіне, большасць апытаных адказалі: "Спадзяюся толькі на сябе".

**Андрэй ДЗЕМЯНЦЬЕЎСКІ.**

### Адным сказам

*Людзі не хочуць адыгрываць ролю пасіўных назіральнікаў, якія проста аддаюць свае галасы падчас выбараў — яны хочуць прымаць актыўны ўдзел у працэсе прыняцця палітычных рашэнняў, якія фарміруюць іх жыццё.*

**З даклада ААН.**

